Hod VIII. Kastryčnik 1936 h. № 10.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



V I L N I A

Biełaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 10:



**З прычыны неаплаты падпіскі стрымліваем высылку „Шл Мол." гэтым разам 50 асобам, далей-жа будзем гэта сама рабіць іншым нашым даўжнікам.—Адміністрацыя „Шл. Мол."**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | W, w, V, v—B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі"
МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода— 1 зл., на год—2 зл.
Заграніцу — ўдвая даражэй.
Адрас Рэдакцыі: Вільня (Wilno), Завальная № 1—2
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VIII. | Вільня, Кастрычнік 1936 г. | № 10(96). |
|---|---|---|

**Міхась Машара**

* * *

Не хачу расплывацца ў кволым,
Слоў імглістых шукаць не хачу.
Быць простым і бадзёра-вясёлым,
Я здаўна маё сэрца вучу.

Адстагнаў, адмаліўся, адплакаў
За усіх наш працоўны народ.
Хоць жыцьцё ня цьвіцець яшчэ макам,
Але чую, — зьвініць веснаход.

Над палямі вясковых ваколіц,
Сонцавеіць наш рух малады.
І так люба ў песьнях сваволіць
Калі верай мацнеюць браты.

Пакідаю і боль і сумнівы,
У мяне ужо сьцежка адна;
Толькі ўзлёт малады, сакаліны
Апяваць будзе муза мая. 1936.

**I. Iskra**

## BAĆKAŬŠČYNA

Kraj moj rodny, kraj pryhožy—
Rodnyja paletki —
Pryhažejšy ty za rožy
Viesnavyja kvietki.

Maješ puščy dramiačyja,
Bałoty, vaziory.
Bystra reki pływučyja
Praz łuhi i hory.

Maješ nivy załacisty,
Dzie žyta krasuješ.
Maješ Nioman sierabrysty
Što chvalaj bušuješ.

Lublu ciabie, kraj moj miły
I tvaju pryrodu;
Budu słužyć da mahiły
Tabie i narodu.

Bo ja tutka naradziŭsia,
Tut ja hadavaŭsia,
Tut ja praŭdy navučyŭsia,
Z niadolaj spatkaŭsia.

**М. Танк**

## З васеньніх напеваў.

Часамі хочыцца з блізкімі гаварыць,
рассеіць дзён мінулых адгалосы
славамі простымі, як шолахам зарніц,
як лісьцьмі ападаючая восень.
Ды шмат каго няма...
Адны — як журавы
ў даль адляцелі прашумеўшы ў вырай;
другія—сьпяць і не падыймуць галавы
з-пад мокрых валавяных ськіваў жвіру...
Нямала ў сьвет пайшло з гаручаю тугой,
але ў дзень заўтрашні з магучай верай,
ў падзёртых рызманох і з песьняй маладой
дарогай соснаў і бярозаў шэрых...
І мо' таму на скрыпцы цяжка гаварыць
часамі аб вясьне і калосьсі,
калі на сэрца шолахам зарніц
апаўшым лісьцем вее сумна восень.
Хвалюе вецер сьвежай руні поля сьцяг,
палосы змытыя сьлязой народнай
і я іх горача прашу: свой шлях
каб я прайшоў закутым ці свабодным..
І каб спаткаў вачыма першую зару
ў агні жыцьця і ў крыгаломе грозным,
як сяйбіт, выйшаў з сонцам, Беларусь,
з народам вольным на твае баразны...
А ноч над полем цёмна-шэрая вісіць,
паўзе імгла між прыдарожных сосен
і тонець зрок між дагараючых зарніц,
і сьцелець лісьцем
ападаючая восень.

Вільня, 13.X.36.

**А. Бярозка**

* * *

Над разорамі чорных палёў, разаслаўшыся хваляй шырокай,
вісьне шэрань туманнага дня...
З-пад размоклай страхі саламянай.
Нудна шыбы вясковых хат вызіраюць. Па глыбях туманаў
і па шэрых бяздоньнях нябёс блудзіць стомлена соннае вока.

Боль павіс на кляновым гальлі...
Восень жорстка абдзёрла бярозы
і ў дарожную гразь затаптала бяз жалю сухія лісты...
і шасьціць пад нагамі лісьцё..
Валавянае неба лье сьлёзы,
стогнуць хвоі пад ветрам ліхім: „Можа з намі заплачаш і ты?“

# Nie zabyvajma ab patrebie sielska-haspadarčaj aśviety

*(Z pryčyny 100-hodździa Siel.-Haspadarčaha Instytutu ŭ Horkach).*

*„Ty artaj — tabie navuka*
*Musić jnakšaja słužyć,*
*Bo najbolšaja tut štuka*
*Prymusić ziamlu radzić“...*
*K. SVAJAK.*

Sioleta ŭ Radavaj Biełarusi majuć uračysta śviatkavać jubilej, słaŭnaha i zasłužanaha ŭ žyćci ekanamičnym i kulturnym, Sielska-Haspadarčaha Instytutu ŭ Hory-Horkach (ci koratka ŭ Horkach) kala Oršy. Važnaja hetaja ŭstanova praisnavała ŭžo 100 hod, bo-ž zakładziny jaje siahajuć 1836 h., choć časta hodam jejnaha paŭstańnia ličać i 1840 hod.

Hory-Horycki Sielska-Haspadarčy Instytut byŭ słaŭny kaliś nia tolki ŭ Biełarusi, ale i ŭva ŭsiej Rasiei. Vučyli ŭ im vialikija vučonyja, jak Luduchoŭski, Stebe i inšyja, katoryja stvaryli rasiejskuju ekanamičnuju navuku. Dostup da jaho mieli tolki dzieci abšarnikaŭ i duchavienstva. U hetkich varunkach, biazumoŭna, Instytut nie davaŭ taje karyści, jakuju moh-by dać, kali-b byli da jaho dapuščanyja šyrejšyja masy. Ale j tak pryčyniaŭsia jon da padniaćcia ziemlarobskaje kultury, bo ŭsio-ž ahranomy, katoryja vychodzili z Instytutu, stavalisia kiraŭnikami dvaroŭ, falvarkaŭ, lasoŭ i haspadaryli ŭžo majučy adpaviednuju viedu. Pry Instytucie było ŭstrojenaje pieršaje, na toj čas, u Biełarusi i Rasiei, daśledčaje pole.

U 1863 hodzie, u časie zabureńniaŭ i paŭstańnia, carskija ŭłady Instytut u Horkach zakryli. Ale chutka na jaho miescy była sarhanizavanaja ziemlarobskaja škoła, jakaja raźvivałasia, i paśla revalucyi ŭ 1918 h. była pieratvorana ŭ Instytut. U 1925 h. savieckija ŭłady Instytut heny pieratvaryli ŭ Biełaruskuju Dziaržaŭnuju Sielska-Haspadarčuju Akademiju im. Kastryčnickaj Revalucyi, z trymia fakultetami: ahranamičnym, meljoracyjnym i lasnym. Ciapier Horyckaja Akademija vypuščaje tysiačy kulturnych ziemlarobskich pracaŭnikoŭ. Treba tak-ža adznačyć, što pamiž inšym, mechaničny addzieł Akademii skanstruavaŭ kambajn — h. zn. takuju mašynu, katoraja žnie, małocie i ačyščaje zbožža.

Dalej ja tut ab Horackaj Sielska-Haspadarčaj Akademii pisać nia budu. A chaču viarnucca na chvilinu da dyskusijaŭ, katorych słuchaŭ i ŭ katorych sam pryjmaŭ nia raz udzieł pasučy koni na vioscy, abo baranujučy razam z susiedziami.

Voś byvała kazali tak tam: „Što ahranomy, što tam ichnija hutarki. Dy my ŭžo tak vyrablajem svaje zahony, što nichto lepš nie patrapić. Dy, urešcie, što na ich zrobiš, kali jany niemahčyma vuzkija“.

I sapraŭdy, zahony i haspadarki sialanskija ŭ našym Krai malejuć da niemahčymaści, i treba dabivacca, kab ich pavialičyć, ale nie mahu adnak ciapier ja zhadzicca z tym, što našyja zahony abrablajucca najlepš. Čamu? A voś, choć-by i tamu, što niadaŭna znajšoŭ ja statystyku i paraŭnańnie ŭradžajaŭ źbiranych u sučasnaj PolšČy i ŭ Halandyi, Belhii dy Danii. Paraŭnańnie hetaje vyhladaje hetak: u Polščy hektar pšanicy daje 11,7 kvintalaŭ (q) ziarna, a ŭ Halandyi — 28,8 q, u Polščy žyta źbirajuć z hektara 11,2 q, a ŭ Belhii — 23,9 q, aŭsa ŭ Polščy hektar daje 11,2 q, a ŭ Danii — 25,7 q, bulby ŭ Polščy z hektara vykopvajuć 112,9 q, tady jak u Belhii — 213,5 q.

Hetaje maleńkaje paraŭnańnie vyrazna pakazvaje, što z abrabotakaj ziamli nia tak užo ŭ nas jość dobra, jak my dumajem (roznica jakaści ziamli małaja) i prypaminaje vyšej prytočanyja słovy vialikaha našaha K. Svajaka ab tym, što my artai i što **treba nam vučycca prymušać ziamlu radzić!**

Ale tut jznoŭ nie adzin słušna moža zaŭvažyć: Ale jak i dzie vučycca? — Škołaŭ ziemlarobskich u našym Krai mała, dostup da ich nia lohki, a ŭ dadatku jany-ž jašče dalokija i niezrazumiełyja dla nas — polskija.

Što-ž rabić? — Voś-ža i aśvietu ziemlarobskuju, tak jak i ŭsio inšaje nam biełarusam treba **zdabyvać samatuham...** Nadchodzić zima. Viečary robiacca što-raz bolšymi. Času chapaje na ŭsio, niachaj-ža marna ŭ nas jon nie prapadaje. Niachaj-ža chopie jaho i na toje, kab choć siady-tady ŭziać u ruki i ziemlarobskuju knižku ci časapis, bo adtul možna šmat čaho karysnaha daviedacca i navučycca. Za hetu litaraturu treba bracca nia tolki starejšym, ale pierad usim moładzi — budučym haspadarom. Praŭda, niama ŭ nas časapisu adumysłova ziemlarobskaha dla moładzi, a „Šlach Moładzi“ zamały, kab možna było ŭ im davać matarjały i z ziemlarobskaj haliny, ale jość u nas adnak časapis katory ŭ hetym kirunku moža mnoha pamahčy. Hetym časapisam źjaŭlajecca biełaruski sielska-haspadarčy i kooperatyŭny miesiačnik **„Samapomač“**, redahavany specyjalistym inžynieram-ahranomam A. Klimovičam. Časapis hety dastupny dla ŭsich. Dyk niachaj ža budzie jon u rukach kožnaha biełaruskaha ziemlaroba, jak staroha tak i maładoha! (Adrys red. „Samapomač“ — Vilnia, Połackaja 9 — 4).

Vučemsia-ž tady haspadaryć na našaj ziamielcy, bo narod my sialanski, my artai, i dahaniajma tyja narody, ad jakich, nažal, daloka adstali... J. N.

---

**Braty! Ci pravodzicca ŭ Vas školnaja akcyja i ci robicie Vy ŭ hetym kirunku jakija-niebudź zachady. — Pomnicie, što rodnaja biełaruskaja škoła paviadzie nas da lepšaj budučyni. Kožny biełarus pavinien damahacca biełaruskaje škoły!... Infarmacyi, instrukcyi, druki i farmulary na žadanie vysyłaje biaspłatna Školny Sakratarjat: Wilno, Karaleŭskaja 3—8.**

---

# Найвялікшыя патрэбы дня

Надрукаваныя ў апошніх нумарох „Шл. Мол.“ артыкулы: „Імкненьні і дамаганьні бел. моладзі на найбліжэйшую будучыню“, „Што рабіць і як рабіць“ і „Пад развагу ўсёй бел. моладзі“ не асталіся бяз рэха. У многіх мясцох моладзь узялася ўжо за намечаную працу, а апрача таго рэд. „Шл. Мол.“ атрымоўвае ў гэнай справе шмат цэнных і цікавых пісьмаў і артыкулаў, з каторых два зьмяшчаем у гэтым нумары. Рэдакцыя.

У апошніх двух нумарох „Шлях Моладзі“ заклікае сваіх чытачоў і прыхільнікаў, каб яны выказаліся ў справе надрукаваных там артыкулаў („Імкненьні і дамаганьні беларускае моладзі на найбліжэйшую будучыню“ і „Што рабіць і як рабіць“), у каторых парушаны найбольш актуальныя патрэбы дня. Вось-жа вітаючы гэты крок „Шляху Моладзі“, — бо супольнае разважаньне над сучасным нашым цяжкім палажэньнем і шуканьнем выхаду з яго ёсьць справай вельмі важнай і патрэбнай — пастараюся і я сказаць некалькі слоў на гэтую тэму.

Зразумела, што мы, моладзь, як і ўсё бел. грамадзянства наагул, мусім працаваць ува ўсіх даступных нам кірунках, аднак з пасярод гэтых кірункаў і галінаў працы трэба найбольш ажывіць тыя, якія ў сяньняшні мамэнт зьяўляюцца найпатрабнейшымі і якія могуць прынесьці найлепшыя рэзультаты.

З пасярод усіх нягодаў і балячак нашага жыцьця бадай што найгразьнейшымі зьяўляюцца сяньня імкненьні шмат якіх кругоў польскага грамадзянства як у цэнтрах, так — і асабліва яшчэ — на правінцыі да асыміляцыі беларускага народу. Памінаючы ўжо агідныя пляны Мацкевіча-Цата і да яго падобных, якія сваім цынізмам пераходзяць нават пляны нямецкае Гакаты адносна палякоў у часы іх няволі, вельмі вялікі круг польскае інтэлігенцыі на беларускіх вёсках, як я асабіста пераканаўся ў сутычнасьці з ей, толькі і лятуціць аб тым, што за пару дзесяткаў гадоў з беларускага народу і яго мовы не астанецца нат' і сьледу. Праўда, вялікі прыродны адпор народу нашага, з якім ён спатыкае ўсё чужое, і масавае імкненьне ягонае да самастойнага жыцьця зьяўляецца найлепшай зарукай, што гэтыя імкненьні ніколі ня зьдзейсьняцца. Але гэта йшчэ ня значыць, што над імі трэба перайсьці да парадку дня. Наадварот, удача і жыцьцёвасьць усякага змаганьня якраз палягае на тым, што ў першую чаргу трэба ўзмоцніць тыя пазыцыі, на якія ськівавана найбольшая атака. І дзеля гэтага праца нашая павінна сьведама і консэквэнтна процiўдзеiць асыміляцыйным імкненьням, процiўдзеiць перадусім пры помачы тых сродкаў, якія ў сяньняшніх варунках найбольш магчымыя і найлепшыя могуць даць

вынікі. А гэткімі сродкамі ў першую чаргу можа быць культурная праца.

Праўда, жыцьцё сучаснае нас навучыла, што гэтая здавалася-б так бязьвінная работа, будучая найбольш натуральнай і неабходнай патрэбай кожнага народу, у надта малой меры ёсьць для нас магчымая. Сьведчыць аб гэтым факт, што дзеці беларускія, за малымі выняткамі, ня могуць вучыцца ў сваей роднай мове, хоць мова гэтая ёсьць прадугледжана польскімі законамі і дзеля ўвядзеньня яе ў пачатковых школах беларускі народ вёў і вядзе вельмі ажыўленую акцыю. Можа аб гэтым сьведчыць так-жа й тое, што мы сяньня маем вельмі малы лік сваіх культурна-асьветных арганізацыяў на правінцыі, хоць яшчэ некалькі год назад мелі іх цэлыя сотні. Падобных прыкладаў можна прывесьці шмат. З іх вынікае, што беларуская культурная праца на вёсцы, *ведзеная шляхам арганізаваным* у належным маштабе і размаху, з незалежных ад нас прычынаў, зьяўляецца сяньня амальшто выключаная. Гэта аднак ня значыць, што трэба з яе зрачыся і зусім перастаць дамагацца беларускае школы, беларускіх арганізацыяў, бібліятэкаў і г. п. Наадварот, дамаганьні гэтыя трэба высоўваць і далей з тэй-жа самай станоўкасьцю. Хоць і не дадуць яны можа спадзяваных рэзультатаў, то аднак будзіць будуць у народзе нашым патрэбу барацьбы за свае натуральныя правы і будуць вымоўным дакумэнтам нашага сучаснага палажэньня. Але каб вёска нашая ня была поўнасьцю пазбаўлена свайго культурнага жыцьця, то трэба вясьці яго *спосабам прыватным*, згодна з абавязуючымі законамі. І на культурна-асьветную працу, ведзеную прыватна ці то групамі сьведамай моладзі, ці проста паасобнымі адзінкамі, мусім сяньня зьвярнуць найвялікшую ўвагу. Кожны з нас павінен ясна сабе ўсьведаміць, што бяз ніякіх праяваў культурнага жыцьця, а гэта-ж нам сяньня пагражае, народ наш мадзее, дэмаралізуецца і нават можа ў некаторай меры стацца падатным матар'ялам для асыміляцыі.

Намечу тутака некалькі важнейшых галінаў культурнаасьветнае працы, якую моладзь нашая павінна вясьці сярод шырокіх кругоў беларускага сялянства.

Наўперад мусім зьвярнуць вялікую ўвагу *на хатняе навучаньне беларускіх дзяцей*, якія зьяўляюцца пазбаўленымі беларускай школы і мусяць здабываць пачаткавую асьвету ў чужой мове. Да гэтага могуць служыць выданая сёлета граматка для беларускіх дзяцей „Першыя зернякі", для дзяцей старэйшых цэлы рад беларускіх чытанак з „Родным Краем" на чале, а так-жа беларускі часапіс для дзяцей — „Пралескі". Трэба толькі пастарацца, каб гэты апошні быў больш мэтодычна і старанна рэдагаваны, пры гэтым трэба яго рассылаць як бясплатны дадатак ня толькі да „Бел. Крыніцы", але і „Шляху Моладзі", а так-жа па магчымасьці і да

іншых бел. часапісаў. На рэдагаваньне „Пралесак“ павінны так-жа зьвярнуць увагу і нашыя паэты, даючы літаратурныя творы, прытарнаваныя да заінтарасаваньняў і інтэлектуальнага роўня дзяцей. Моладзь нашая павінна сама заняцца хатнім навучаньнем, а так-жа даваць ініцыятыву і прыклад усім граматным сялянам. Калі мы возьмем пад увагу вялікі лік беларускай інтэлігентнай моладзі на правінцыі, з пасярод якой знойдзем многа із сярэдняй асьветай, то пазашкольнае навучаньне бел. дзяцей можна паставіць на адпаведнай вышыні.

Другой вельмі важнай галінай беларускай культурнай працы на вёсцы ёсьць *чытаньне і пашыраньне беларускага слова* — кніжак і часапісаў. Трэба згадзіцца, што ня толькі нашае сялянства, але так-жа і беларуская інтэлігенцыя на вёсцы вельмі мала цікавіцца здабыткамі роднай культуры — мала чытае й пашырае беларускія кніжкі і часапісы. Прычынай гэтага зьяўляецца ня толькі нашая беднасьць, але так-жа і нашае нядбальства. Як прыклад можам узяць пад увагу хоць-бы артыкул у вапошнім нумары „Шл. Мол.“ п. н. „Усей беларускай моладзі пад развагу“. Гаворыцца там, што хоць „Шл. Мол.“ выходзіць ужо восьмы год, то ня гледзячы на гэта мае дасюль усяго толькі няпоўную тысячу рэгулярных падпішчыкаў і дзеля гэтага выдаваньне яго пакрываецца бясплатнай працай беларускіх друкароў. Ці-ж пры нашай вялікай колькасьці і вельмі таннай падпісцы на „Шлях Моладзі“ (ўсяго 2 зал. ў год), лік падпішчыкаў ня мог-бы падняцца да некалькіх тысячаў? Тагды наш часапіс мог-бы выходзіць ня толькі раз у месяц, але шмат часьцей і ў павялічаным разьмеры. Гэтае самае можна сказаць і аб усей іншай нашай прэсе, а так-жа аб беларускіх кніжках.

Вельмі сумна і нат' сорамна, што сярод нашай моладзі на правінцыі вытварыўся вельмі нездаровы пагляд, што быццам спаўняе яна свой грамадзкі абавязак, калі чытае й атрымлівае беларускае друкаванае слова нават бясплатна. Моладзь нашая павінна ўрэшце зразумець, што ўсё тое, што выдаецца й друкуецца ў Вільні, робіцца гэта ахвярнымі высілкамі бел. інтэлігенцыі, у ладнай меры безработнай. Дзеля гэтага паміж гэтай інтэлігенцыяй і моладзяй на вёсцы павінна быць узаемнае зразуменьне і супрацоўніцтва ня толькі моральнае, але й матар'яльнае. Кідаю на гэтым месцы заклік, каб кожны з дасюлешніх падпішчыкаў і чытачоў „Шляху Моладзі“ паставіў сабе за *абавязак ня толькі рэгулярна аплачваць падпіску* на гэты часапіс і выпісваць беларускія кніжкі, але каб таксама з пасярод сваіх знаёмых *прыдбаў як найбольшы лік новых падпішчыкаў*. Праектую так-жа, каб рэдакцыя „Шл. Мол.“ абвесьціла цэлы рад нагародаў у пастаці лепшых беларускіх кніжак тым, хто прыдбае азначаны лік падпішчыкаў. І калі мы такім спосабам належна правядзём акцыю вэрбаваньня новых падпішчыкаў так, каб лік іх

перавышаў прынамсі дзьве тысячы—а зрабіць гэта лёгка— то напэўна „Шлях Моладзі" хутка выходзіў-бы *большы разьмерам і багацейшы зьместам ды ілюстрацыямі.*

Але і самыя часапісы павінны лепш рэдагавацца і быць больш цікавымі і карыснымі для вёскі. Трэба сьмела глянуць праўдзе ў вочы і сказаць, што некаторыя нашыя часапісы, асабліва палітычна грамадзкія, рэдагуюцца вельмі няўдала, запаўняюцца матар'ялам неапрацаваным, ды няцікавым і бескарысным, тады, калі можна яго замяніць рэчамі сапраўды патрэбнымі. Дзеля пашырэньня беларускіх кніжак трэба, каб нашыя кнігарні выдалі супольна добра апрацаваны каталёг з кароткімі крытычнымі зацемкамі аб кожнай кніжцы, які рассылаўся-б бясплатна на кожнае жаданьне, а так-жа як бясплатны дадатак да беларускіх часапісаў.

Яшчэ аднэй галінай культурна-асьветнае працы, якую павінна выкарыстаць бел. моладзь, ёсьць *ладжаньне беларускіх імпрэзаў*—тэатральных прадстаўленьняў, лекцыяў, канцэртаў беларускае песьні і да г. п. Такая праца магчымая толькі там, дзе існуюць свае культурна-асьветныя арганізацыі. Дзе-ж іх няма і немагчыма з тых ці іншых прычынаў залажыць іх, трэба рабіць гэта ад імя польскіх арганізацыяў, што існуюць незалежна ад нашай волі ў нашай вёсцы. Наагул бел. амоладзі трэба рупіцца, каб у гэтых арганізацыях шырока праводзілася беларуская культурная праца. Але ўжо ад даўжэйшага часу чуваць нараканьні на недахват адпаведных бел. п'есаў, а тыя, што ёсьць надрукаваныя, то або ўжо перастарэлыя і неактуальныя сяньня, або ўжо ставіліся па некалькі разоў у тэй самай вёсцы. Тут вясковай моладзі павінна памагчы бел. інтэлігенцыя і здабыцца на выданьне добрых, адказваючых сучасным патрэбам і настроям, сцэнічных твораў. Павінны ўрэшце аб гэтым падумаць і нашыя перадавыя паэты, як Машара, Танк, Ільляшэвіч, Васілёк, Бярозка і інш., ды безадкладна прыступіць да працы над тэатральнай літаратурай. Як возьмуцца за гэтую працу людзі да гэтага пакліканыя, то тады напэўна ня будуць выходзіць творы нічога нявартыя, як гэта часта ў нас бывае.

Вось галоўныя галіны культурна-асьветнае працы так неабходнае сяньня, і некалькі практычных радаў, як вясьці яе на вёсцы. Мусім толькі ўсьведаміць сабе, што праца гэтая павінна вясьціся шляхам узаемнага супрацоўніцтва кіруючых кругоў беларускае інтэлігенцыі і вясковае моладзі. І калі ў аснову гэтага супрацоўніцтва паложым нашыя агульнанародныя мэты, а ня пусты вонкавы эфэкт і не інтарэсы партыйныя і груповыя, як гэта часта рабілася дагэтуль, то зможам даць нашаму сялянству хоць мінімум культурнага жыцьця. А тады і асыміляцыйныя імкненьні, якія з усіх бакоў сяньня нам пагражаюць, ня будуць страшнымі.

*Алесь Рымчук.*

---

# 15-tyja ŭhodki Biełaruskaha Muzeju ŭ Vilni

Miž mnohich sioletnich kulturnych biełaruskich jubilejaŭ, zasłuhoŭvaje na ŭvahu jubilej Bieł. Muzeju im. Ivana Łuckieviča ŭ Vilni, katory sioleta śviatkuje 15-tyja ŭhodki svajho isnavańnia.

Biełaruski Muzej im. Iv. Łuckieviča ŭ Vilni (Astrabramskaja 9) paŭstaŭ u 1921 hodzie z pryvatnych zboraŭ staradaŭnych biełaruskich pamiatkaŭ viedamaha biełaruskaha dziejača adradženca i niaŭtomnaha kulturnaha pracaŭnika śv. p. Ivana Łuckieviča. Da zboraŭ henych dajšło jašče mnoha cennych



IVAN ŁUCKIEVIČ.

staradaŭnych i sučasnych pradmietaŭ, achviaroŭvanych bieł. hramadzianstvam i takim sposabam majem u Vilni sapraŭdy vielmi cenny i bahaty svoj biełaruski muzej, jakim apiakujecca Biełaruskaje Navukovaje Tavarystva.

Biełaruski Muzej, jak i muzei inšyja padzieleny na addziełу. I tak jość: addzieł dahistaryčny, jaki składajecca z pradmietaŭ znajdzienych pry raskopkach kurhanoŭ; kalekcyi starych piačatak, syhnetaŭ, manetaŭ; addzieł pradmietaŭ relihijnaha kultu; malarstva, hraviury, drevarytaŭ, matarjałaŭ z bieł. budaŭnictva; etnohrafičny addzieł z narodnaj vopratkaj i tkaninaj, narodnych muzykalnych instrumantaŭ, staradaŭnaje zbroi i vopratki. Jość

tak-ža bahatyja addziełу rukapisaŭ, roznych hramataŭ i staradaŭnych drukaŭ, u jakim miž inšym znachodzicca biblija dr. Fr. Skaryny z 1517 h., Litoŭski Statut vydany pabiełarusku ŭ 1588 h. i šmat inšych cennaściaŭ. Aprača hetaha pry muzei viadziecca bahaty archiŭ aktaŭ datyčačych biełaruskaha adradženskaha ruchu, i jość jašče vialikaja biblijateka, jakaja nažal nia moža być addana da publičnaha ŭžytku z pryčyny ciesnaty pamiaščeńnia. — Słovam, Bieł. Muzej im. Ivana Łuckieviča ŭ Vilni — heta vialikaje biełaruskaje narodnaje bahaćcie i treba staracca, kab muzej hety ŭściaž pavialičvaŭsia i byŭ naležna zabiaśpiečany.

*J—k.*

---

# З настрояў вёскі на Палесьсі

## Аб чым гавораць сяляне і што робіць моладзь.

Спорт цяпер модная рэч. Нават Олімпіяды спартовыя адбываюцца, каб там даведацца, хто далей скача, хто хутчэй бегае. Адно наша беларуская вёска астаецца да спорту роўнадушнай. І ня толькі што роўнадушная, але нават сказаўбы варожая. Вось недзе там бегаюць, скачуць, бяруць нагароды, прэзыдэнты дзяржаў да гэтага прыглядаюцца—а наш селянін называе ўсё гэта адным словам — гульня. „Гуляюць, кажа, сабе паны добра пад'еўшы". Неяк, аднаго разу, чытаем з газэты пра рэзультаты спартовай імпрэзы. Сяляне слухаюць, маўчаць, а потым адзін старычок, але даволі яшчэ жывы чалавек, кажа: „Так іх м... яны там забаўляюцца, а ня бачаць таго, што тут вада ў гарод падходзіць". Праўду кажучы, вада была не ў гародах, але блізка гумнаў. Яе можна было спусьціць пракапаўшы равок. Сяляне самі ня йдуць. Наказвае тады рабіць гэта заступнік солтыса. Заінтэрэсаваных ў пракапаньні роўна было гаспадароў 40 — прыйшло 15—20. І то — капаць ня вельмі каму ахвота — абы прабыць дзень. А тыя, што найбольш гаварылі пра агульнае дабро, наракалі на нашых сялян, што ня могуць самі добра сабе зрабіць, або зусім ня прыйшлі, або прыйшоўшы пазьней усіх палахалі языкамі трохі, ды пайшлі назад. „Ох, каб гэта нашыя людзі былі такія, ох каб гэткія, вось было-б добра на сьвеце. І чаму яны не такія, чаму ня гэтакія?"

З палітыкай-жа зусім іншая рэч. Тут ужо аматараў ёсьць, сказаў-бы, нават замнога. Нават такія старыкі, якія зроду газэт ня трымалі ў руках, чытаць зусім ня ўмеюць, і то пачалі палітыкаваць. Вязу, неяк, я жыта з поля. Выходзіць з гумна адзін такі старына, што ўжо аднэй нагой стаіць у магіле, гадоў пад восемдзесят. Ён у нас цікавы тым, што яшчэ мае боты, якія яму бацька пашыў, калі ён жаніўся. І боты гэтыя асаблівыя. Маюць яны высокія халявы, вышэй кален. Уверсе халявы завернуты наніз. Выглядае ён ў іх так,

як гішпанскі гранадзер з XVI ці XVII сталецьця. „Здаровы былі дзеду!“ — кажу яму. „Добрае здароў'е“ — адказвае. З месца агарошвае мяне пытаньнем: „Ці ведаеш, кажа, немцы Гданск забралі?“ „Ну, ці-ж праўда?—пытаю“. „Так, ужо газэты аб гэтым пішуць — ня чытаў?“. „Газэту чытаць чытаў, кажу, але такой навіны ня вычытаў“. А стары, відаць, прачытаў вясковую газэтку. Славіцца яна тым, што пакуль навіна пройдзе праз вёску, ужо яе і пазнаць нельга—толькі да яе дададуць. А праўду кажучы, сяляне газэтамі цікавяцца. На што калі — але летам, у гарачую пару, як толькі ўлучыў мамэнт быць у Пружане — вязе стуль газэту—чытаюць грамадой. Вось чаму сяляне, менш больш, азнаёмлены з палітыкай. Гэта ўжо памалу пераходзіць у штодзенны хлеб. Цікавяцца газэтамі ўжо і сялянкі. І пamойму, гэта добра.



З абразоў Палесься.

Кепска стаіць справа з маладым і падрастаючым пакаленьнем. Яно выбітае зусім з каляіны нармальнага жыцьця. Моладзь гэта прайшла ўжо польскую школу, якая ей добрых задаткаў не дала. Арганізацыі сваей няма. Моладзь псуецца. А што псуецца — гэта факт. Б'юцца паміж сабой, крадуць А як б'юцца, пушчаюць канешне ў ход нажы, напільнікі. З такой бойкі выходзяць або вечныя калекі, або трупы. Іншых ня бывае. Не скажу, каб запіваліся. Самагонкі ў нас ня гоняць, гарэлка дарагая. Б'юцца, бо злосьць па людзях ходзіць, жыцьцё кепскае, а пры тым у бойцы выладоўваецца лішняя энэргія. Вось тут сапраўды можа і патрэбны спорт, бо ён магчыма прычыніўся-б да выладаваньня энэргіі моладзі ў лепшым кірунку.

Характэрная рэч. Сяляне наагул наракаюць на „ужэнднікаў“ і жыдоў. „Нічога ня робяць, а грошы бяруць, каб іх

так і гэтак“. Толькі тыя, якія маюць каго-колечы на „лёгкім хлебе”, або йшчэ толькі кандыдата туды, тыя ўжо нападаюць толькі на жыдоў. „Ужэнднікі“ ужо ў іх не дармаеды.

## Чалавек зьмяняе скуру.

Польскі пісьменьнік Бруно Ясенскі, якога французы выдалілі ад сябе затое, што ён напісаў кніжку „Палю Парыж“—цяпер, жывучы ў Саветах, напісаў другую кнігу, якая называецца „Чалавек зьмяняе скуру“. Гаворыцца там аб сялянах, якія пад кіраўніцтвам тав. Сталіна, з заўзятых аднаасобнікаў парабіліся прыкладнымі калгасьнікамі. Ня ведаю, наколькі Бруно Ясенскі кажа праўду. У нас сяляне гавораць аб колектывах, але тымчасам іх ня хочуць. У нас адбываецца аналёгічны працэс, толькі ў іншай форме. У нас людзі зьмяняюць скуру — тачней кажучы — веру. Быў чалавек праваслаўным, хадзіў да бацюшкі, вучыўся „Верую“, а цяпер глядзіш, ужо і каталік—„Wierzę w Boga Ojca“ і г. д. Адбываецца гэта пераважна з людзьмі маладымі, кандыдатамі на пасады. Вучыўся недзе ў школцы, быў праваслаўным, а як кончыць прышлося — ўжо каталік.

Такія вось чуваць навіны і настроі на Палесьсі.

*П. З.*

---

# Ci vajna źjaŭlajecca vychadam z ciažkaha pałažeńnia?

Karystajučy z zakliku „Šlachu Moładzi“ (№ 9) chaču padać niekalki słoŭ u spravie prablemy: „vajna ci mir“.

Biazumoŭna, što biełaruskaja moładź u całaści suproć vajny, jak znaradździa ŭzbrojenaha rabavańnia terytoryjaŭ i bahaćciaŭ silnymi hetaha śvietu. Adnak jość na biełaruskaj vioscy ludzi, asabliva siarod moładzi, katoryja čakajuć vajny. Čakajuć jaje navat z nieciarpieńniem. Adny prosta kažuć: „Niachaj była-b užo vajna, moža pieramieny jakija nastupili-b: ciažka žyviecca“. Inšyja, bolš śviedamyja, razvažajuć hetak: „Vajna ŭzbroić narod i jon pačnie bicca nie za čužoje, a za svajo, za naležnaje jamu; bicca pasvojmu“ i h. d.

Značycca i siarod biełaruskaje moładzi jość nastroi provajennyja (za vajnu). Treba adnak adrazu zaznačyć, što isnuje vielmi vialikaja roźnica miž našymi pravajenščykami i śviedamymi arhanizatarami vajny. Bo naprykład: čaść bieł. moładzi čakaje vajny, spadziajučysia, što ŭ časie jaje pakryŭdžanyja i pryhniečanyja siańnia ludzi i narody buduć zmahacca za naležnyja im pravy i asiahnuć svaje mety. Śviedamyja-ž arhanizatary vajny, vialikija bahačy i pramysłoŭcy, imperyjalistyčnyja dziaržavy chočuć vajavać dziela taho, kab nažycca, kab zachapić novyja terytoryi (prykł.: Italija ŭ Abisynii). I jany spadzia-

jucca, što „śviataść prykazu“ dla vajakaŭ-žaŭnieraŭ nie narušycca, a razam z tym ichnija imperyjalistyčnyja namiery żdziejśniacca.

Voś-ža našy pravajenščyki zabyvajucca ab tym, što spačatku vajny pry šalonaj ahitacyi, jakaja tady razhortvajecca i zdajecca paryvaje ŭsich svaim vadavarotam, śviataść prykazu nabyvaje jašče bolšaj mocy. Słova „vajna“ elektryzuje ŭsio hramadzianstva. A tolki tady, kali žaŭniery, padobna vobrazu z knižki „Na zachodnim froncie biez pieramien“, pačnuć svaje vošy smažyć na patelni, paznajuć što za smak nia spać pa niekalki sutak, stojačy ŭ chałodnaj hrazi frontavych akopaŭ, nahledziacca, jak ludzkija mazhi miašajucca razam z kiškami i hrazioju, a hoład, epidemija, kuli, hazy, bomby pasiejuć śmierć i kalectva mnohich tysiačaŭ niavinnych ludziej, kali žaŭnier stanie pierad pytańniem: „Što lepiej — śmierć, ci takoje žyćcio?“ — tolki tady narakańnie, niezadavaleńnie vajnoju, pieralatajučy z akopaŭ u akopy, pierachodzić u mahutny pratest suproć vajny i biezhraničnuju ciahu da miru. Zmahańnie za mir pačnie pierarastać u zmahańnie za inšyja pravy, jakimi mahli-b karystacca ludzi biez žaŭnierskich munduraŭ. Tolki tady pačnuć raści hvałtoŭnyja vyzvalenčyja siły.

Nie vajna miž Rasiejaj i Niamieččynaj pryniasła niezaležnaść paniavolenym narodam carskaj Rasiejaj i Niamieččynaj. Kali-b byli na pasadzie kajzer Vilhelm II i „car-baciuška“ Mikałaj II, kali-b niamiecki i rasiejski narody razam z inšymi narodami nie paŭstali, nia škinuli hetych „usiemahutnych“ vaładaroŭ, to badaj-što palaki, łatyšy, finy, litoŭcy, esty i šmat inš. nia mieli-b svaje niezaležnaści. Nie vajna, a revalucyja ŭ Niamieččynie i Rasiei, jak ab hetym piša pepeesaŭski „Robotnik“, pamahła zdabyć hetym narodam niezaležnaść. A kolki ŭ vajnie było niepatrebnych achviaraŭ i źniščeńnia dy ciarpieńniaŭ?

Dyk mylajucca našyja pravajenščyki. Tym bolš, kali zabyvajucca, što hvałtoŭnyja vyzvalenčyja siły dazravajuć u časie vajny ŭ rezultacie niezadavaleńnia joju, a nie ŭ rezultacie pravajennaj ahitacyi. Dziela hetaha treba šukać vychadu mienš stratnaha, bolš kulturnaha i ludzkoha. Vychad znajdziecca. Uśviedamleńnie narodnych huščaŭ, abjednańnie ŭsiaho sumlennaha pastupovaha va ŭsich narodaŭ — mohuć stvaryć šlach da nacyjanalnaje i hramadzkaje voli, da palepšańnia bytu.

Mylajucca taksama tyja, što ćvierdziać: — u ciapierašnim śviecie vojny nia vyklučalnyja źjaviščy — Tak, vojny ŭ ciapierašnim śviecie nia vyklučalnyja, ale šyroki antyvajenny ruch moža stvaryć arhanizataram vajny niepakanalnyja pieraškody i prynamsia adciahnuć jaje.

Urešcie treba skazać, što biełarusy pacyfisty za mir taki jaki-b nie daražej kaštavaŭ Biełaruskamu Narodu čymsia vajna...

Mir-ža budzie mocny i tryvały tady, kali budzie abapiorty na spraviadlivym sužyćci narodaŭ. *Pacyfisty.*

# Novyja kulturna-muzyčnyja zdabytki

25.IX.36 ŭ Vilni viedamy kampazytar praf. K. Hałkoŭski prademanstravaŭ hrupie bieł. intelihiencyi 2 novyja muzyčnyja tvory na chor i arkiestru. Adzin z ich nazyvajecca „Duda",druhi „Kachanie"—abodva-ž jany źjaŭlajucca viazankami bieł. narod. pieśniaŭ jakija kampazytar pamastacku zharmanizavaŭ, rasšyrajučy ich melodyi i viažučy ŭ całaść jak suity. „Duda" składajecca z nastupnych pieśniaŭ: 1. Duda, 2. Kala rečki, 3. Paviej viecier darohaju, 4. Kaladka, 5. Oj pajechaŭ miły, 6. Nia kukuj, nia brukuj sivieńki hałubčyk, 7. Čamu-ž mnie nia pieć, i 8. Ci nia dudka



Praf. K. HAŁKOŬSKI

maja. Suita „Kachanie"—składajecca z nastupnych 10 liryčnych ramansaŭ: 1. Oj, pjana, ja pjana, 2. Paždžy chłopiec hadzinu, 3. Oj znaci, znaci, 4. Oj ŭ poli dub, dub, 5. Tam za hajem, za Dunajem, 6. Oj płyli husańki cichaju vadoju, 7. Sumny viečar, sumny ranak, 8. Oj, zaržy, zaržy, varany kaniok, 9. A ŭ poli viarba i 10. U kancy siała staić viarba.

Praf. K. Hałkoŭski rodam z Vilni. Baćki-ž jaho biełarusy z Mahiloŭščyny. Muzyčnuju adukacyju zdabyŭ jon u Pieciarburskaj Konservatoryi, katoruju skončyŭ u 1908 h. z załatym miadalom. Pierad suśvietnaj vajnoj byŭ jon u Vilni dyrektaram i prafesaram muzyčnaj škoły. Paśla vajny praf K. Hałkoŭski dalej pracuje ŭ Vilni na nivie muzyčnaj, paśviačajučy mnoha času biełaruskim pieśniam, jakija pamastacku harmanizujučy, pryčyniajecca da razrostu bieł. kultury, za što Jamu česć i słava!...

# U Hišpanii dalej ljecca kroŭ...

Kanca žorstkaje baraćby za ŭładu ŭ Hišpanii jašče nia vidać, choć pieramoha dahetul usio pierachilajecca na staranu paŭstancaŭ. Asabliva zaŭziatyja bai adbylisia kala m. Alkazar i Oviedo, dzie prychilniki ŭradu asabliva zaŭziata atakavali paŭstancaŭ i dzie paŭstancy zaŭziata baranilisia, dy ŭ kancy pie-



Častka miesta Madrytu źniataja zhary.

ramahli. Vielmi cikavuju pramovu ab pałažeńni ŭ Hišpanii skazaŭ praz radio hišpanski katalicki ksiondz Leokadio Lobio. Jon, miž inšym ćvierdzić, što paŭstancy nie pieramohuć, bo žadańni narodu i staronnikaŭ uradu jość słušnymi, chryścijanskimi, a paŭstancy-fašysty nia majuć za saboj ani spraviadlivaści, ani razsudku.

Apošnimi dniami jak urad, tak i paŭstancy hurtujuć usie svaje siły kala stalicy Hišpanii—Madrytu, jakaja ŭ rukach uradu i za jakuju maje adbycca, moža i kančalna rašajučy boj.

## Z KRAJU

### Z kulturna-aśvietnaje nivy.

Žodziški, Vialejskaha pav. Žodzišny hurtok BIHiK 4.X. sioleta zładziŭ biełaruski spektakl-viečarynu. Stavili kamedyju „Sud" — Hałubka. Artysty svaje roli vykanali davoli dobra. Publika vyjaŭlała svajo zadavaleńnie burnym śmiecham i plaskańniem u dałoni. Narodu, nia hledziačy na doždž, sabrałasia šmat. Arhanizatary pradstaŭleńnia za pieršym razam dazvołu ad Starastva nie atrymali tamu, što Starastva vymahała, kab pradstaŭleńnie było miešanaje, h. zn. adna reč biełaruskaja, a druhaja polskaja. Na padobnuju prapanovu, biazumoŭna, nichto nie zhadziŭsia. Tolki za druhim razam dazvoł na pradstaŭleńnie dastali i biaz polskich dadatkaŭ.

Zdabyty dachod u časie pradstaŭleńnia pojdzie na mety kulturnyja. Spektakl-viečarynu ładziła moładź i za heta joj češć.

*Z. Tič.*

Падлесьсе, Баранавіцкага пав. Летам сёлета моладзь нашага сяла хацела сарганізаваць спэктакль. Думалі паставіць п'есу Аляхновіча „Пан міністар". З ахвотай узяліся да працы, шмат часу патрацілі на рэпэтыцыі, вывучыліся ролі і... пачалі старацца дазволу на спэктакль у Баранавіцкім Старастве. Нажаль „z uwagi na spokój i bezpieczeństwo publiczne" дазволу на спэктакль не дачакаліся...

Публічнаму супакою і парадку ў Падлесьсі нішто цяпер не пагражае...

*Эм.*

Сенкевічы, Косаўскага пав. Вялікая наша вёска, бо мае болей, як 130 хат, і многа ў нас ёсьць моладзі, і амаль уся яна народна сьведамая — беларусы. Нашая моладзь не паддаецца полёнізацыі — польскія арганізацыі ў нас не разьвіваюцца. Калісьці добра ў нас разьвіваліся беларускія арганізацыі. — Нядаўна нашая моладзь залажыла гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і падала ў Старацтва заяву з просьбай залегалізаваць яго. Старацтва аднак зрабіла ў гэтай справе сьледзтва, пазываючы да сябе заклад-чыкаў гуртка, якія пасьля гэтага адмовіліся ад сваіх подпісаў на заяве...

*Малады Беларус.*

Гудзевічы, Горадзенскага пав. Палажэньне ў нас як матар'яльнае так і моральнае вельмі цяжкое. Сяляне і моладзь нацыянальна, можна сказаць, ужо сьведамыя. Усе беларусы, за выняткам паліцыі і агулам людзей спаўняючых урадавыя функцыі. Народ жадае свае беларускае школы, дык пачала разьвівацца ў нас беларуская школьная акцыя, за якую многа ўжо хто і моцна пацярпеў. Ня гледзячы на ўсё, верым у перамогу, у лепшую будучыню і цьвёрда будзем стаяць за сваё.

*Маладняк.*

# Što kažuć palaki sami ab sabie

Viedamy polski dziejač praf. L. Skočylas vydaŭ niadaŭna knižku p. n. „Szkoła polska na rozdrožu", u jakoj miž inšym daje charakterystyku sučasnaje polskaje moładzi. Pavodle hetaje charakterystyki sučasnaja polskaja moładź źjaŭlajecca: „1. biazbožnaja, 2. skamunizavanaja, 3. razvydrana płočna. 4. biazstydnaja, prastupnaja i zładziejskaja tak, što ŭ niekatorych školach maładyja zładziei arhanizujuccca i abkradajuć publiku, 5. zdemoralizavanaja i raśpitaja vodkaju až da klasaŭ nižejšych". („Słowo" № 270 (4476).

Iznoŭ-ža niechta A.P.K. u „Słowie" z dn. 20.IX sioł. miž inšym hetak piša: „Demokracyja moža być pryrodnaja i tady jana pravilnaja. Ale demokracyja, jakuju spatykajem u Polščy, heta tolki niaŭdałaje naśledavańnie („parodja") taho, što na Zachadzie jość naturalnym, demokracyja ŭ Polščy, heta deklamatarstva".

Voś što ab sabie havorać sami palaki: chiba-ž sami siabie znajuć jany najlepš. A kali tak, dyk niezačym hnacca našaj niaśviedamaj moładzi, jakoj zdajecca, što ŭsio polskaje jość dobraje.

*n.*



Hetak vyhladali sioleta na manieŭrach vajennyja anhielskija karabli z ciažkimi harmatami.

## U BIEŁ. STUDENTAŬ

— 17.X siol. ŭ Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni (Zavalnaja 1-1) adbyŭsia pieršy, h. zv. inauguracyjny viečar u novym 1936-37 akademickim hodzie. Viečar hety pačaŭ pramovaj staršynia BSS stud. M. Ščors, katory, prypaminajučy svaim kaleham ab abaviazkach studentaŭ adnosna svaje Baćkaŭščyny, zaklikaŭ da pracy na universytecie i ŭ BSS na karyść svajho narodu. Paśla stud. P. Zasim mieŭ referat, u jakim havaryŭ ab zahanach bieł. intelihiencyi i sialanstva, pajmienna, ab niestačy viery ŭ svaje siły i pačućci nižšaści, dy ab patrebie zmahańnia z hetymi prajavami. Dalej, adbyvalisia deklamacyi tvoraŭ bieł. paetaŭ. Miž inšym dr. J. Malecki pračytaŭ uryvak z paemy M. Mašary „Mamčyna Horka", a M. Tank pračytaŭ niekalki svaich vieršaŭ, horača pryjmanych prysutnymi. Adzin z čytanych na hetym viečary paetam vieršaŭ — „Z vasieńnich matyvaŭ" — drukujem u hetym numary „Śl. Moł.". Na zakančeńnie śpiavaŭ chor pad kiraŭn. hram. R. Šyrmy, jaki, jak zaŭsiody pamastacku vykanaŭ niekalki biełaruskich pieśniaŭ.

Ahułam kažučy, viečar adbyŭsia vielmi ŭračysta, pavažna i salidna. Pamieškańnie prybranaje nacyjanalnymi biełaruskimi ściahami było pierapoŭniena studenckaju moładździu. Byli tak-ža pradstaŭniki bieł. kult. arhanizacyjaŭ, bieł. presy, a taksama pradstaŭniki ukrainskaha i litoŭskaha studenckich sajuzaŭ u Vilni.

Treba zaznačyć, što BSS viadzie nia tolki pracu siarod studentaŭ, ale i kulturna-aśvietnuju pracu na vioscy, ładziačy pradstaŭleńni i lekcyi. Nažal, sioleta, mima taho, što mnohija z bieł. studentaŭ mieli dazvoły na čytańnie lekcyjaŭ ad Vil. Universytetu, nie zmahli svaich pryhožych namieraŭ vykanać z pryčyny nieprychilnych adnosinaŭ da hetaha miascovych administracyjnych uładaŭ.

— 18.X adbyłasia I-ja sioleta zborka ŭ T-vie Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry Vil. Universytecie, na jakoj paet M. Tank čytaŭ niedrukavanyja dahetul svaje tvory. Paśla adbyłasia dyskusija nad vartaściami pračytanych i naahuł viedamych tvoraŭ paeta. Acena tvoraŭ była dadatniaja. *jn.*

## U BIEŁ. SKAŬTAŬ

— Na pačatku sioletniaha novaha školnaha hodu ŭ X-taj družynie Biełaruskich Skaŭtaŭ u Vilni adbylisia niekatoryja źmieny i ažyviłasia praca. Miž inšym vybrany novy družynovy skaŭt Kieturka. I treba skazać, što asoba jahonaja daje nadzieju, što dziejnaść bieł. skaŭtaŭ budzie raźvivacca pamysna. Aprača chłapcoŭskaj družyny skaŭtaŭ, jak viedajem, jość u Vilni dziavočaja bieł. skaŭck. družyna, katoraja raźvivajecca taksama dobra.

— 11 h. m. adbyŭsia ahulny schod siabroŭ Hurtka Pryjacielaŭ Bieł. Skaŭtaŭ, na jakim abhavarvalisia spravy pomačy bieł. skaŭtam i byŭ pradstaŭleny šyroki plan ichniaj pracy.

**Восень.**

Пераплеценае поле
ад мяжы і да мяжы
там, дзе вецер на прывольлі
павуцінаю дрыжыць.

Кожны год гэтак бывае,
што змаўкае птушак хор —
толькі вецер завывае
ў камінох і над страхой.

Невясёлая часіна,
ў халадох праходзяць дні,
толькі лісьце на асінах
у чырвоным, у агні.

*А. Іварс.*

**Закладаймо коопэратывы!*)**

Кожны таргавец прыватны,
Як цяпер, так і бывала,
Ці то ўласьнік, або платны —
Нас ашуківаў нямала.

Ськіньма-ж ўсе па пару злотаў,
А у пай па дваццаць пяць,
І так дружна і з ахвотай
Коопэрац‘ю пашыраць!

Ці ж ня маем сіл сваіх,
Ды шукаць іх у каго —
Трэба стаць: „адзін за ўсіх,
А усе за аднаго“.

*Лісточак.*

*) Вершык гэты напісаў адзін з нашых вясковых маладых чытачоў. Друкуем гэты верш дзеля прыгожых і актуальных думак і клічаў ягоных. — Рэд.

**Araby ŭ Palestynie ŭspakojvajucca.**



Jak my užo pisali, u Palestynie araby viali zaŭziatuju baraćbu z žydami. Ciapier heta baraćba asłabła, adnak i ciapier anhielskaje vojska maje tam z arabami šmat kłopataŭ. — Na źnimcy vidać, jak žaŭniery robiać reviziju ŭ arabaŭ.

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Jubilei biełaruskich kulturnych ustanoŭ.** Sioleta minuła 15-ć hadoŭ ad zasnavańnia T-va Biełaruskaje Škoły, Biełaruskaha Muzeju ŭ Vilni i 10-ć hadoŭ ad zasnavańnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury.

**Sprava stvareńnia Sajuzu Biełaruskich Piśmieńnikaŭ i Žurnalistaŭ na dobraj darozie.** Sprava arhanizacyi Sajuzu Bieł. Piśm. i Žur. pryjmaje ŭžo zusim realnyja formy i znachodzicca na dobraj darozie.

**Litaraturnaja zborka.** Dziela ažyŭleńnia biełaruskaha litaraturnaha žyćcia, čas. „Калосьсе" ładzić kožnuju piatnicu litaraturnyja zborki, na jakich bieł. paety i piśmieńniki čytajuć svaje tvory.

**Iznoŭ sud.** 28.IX siol. Vil. Haradzki Sud, razhledziŭšy spravu redaktara „Bieł. Krynicy", hram. J. Paźniaka, abvinavačanaha za źmiaščeńnie ŭ „Bieł. Krynicy" sioleta artykułu p. n. „Razhon žjezdu Rady BChD", zasudziŭ red. J. Paźniaka na 2 tydni aryštu i 100 zł. štrafu. Zasudžany padaŭ apelacyju.

**Biełaruskaja Katalickaja Akcyja.** 18.X sioleta ŭ Vilni adbyŭsia schod biełarusaŭ katalikoŭ, na jakim pastanoŭlena sarhanizavać Bieł. Katalickuju Akcyju. Vybrany ŭrad novaj arhanizacyi biełarusaŭ katalikoŭ pradstaŭlajecca hetak: ks. J. Hermanovič — staršynia, ks. A. Staakievič, inž. L. Dubiejkaŭski, ks. St. Hlakoŭski i stud. V. Jarmałkovič — siabry.

**Źmiena dyrektara Vil. Bieł. Himnazii.** Z dniom 1.X.36 škołnyja ŭłady dasiulešniaha dyrektara Biełaruskaj Filii Dziaržaŭnaj Himnazii im. J. Słavackaha ŭ Vilni hram. R. Astroŭskaha zvolnili z zajmanaha stanovišča i pieranieśli ŭ Łodź. Na miesca hram. Astroŭskaha naznačany hram. Ancukievič, dasiulešni vučyciel łaciny hetaje-ž himnazii.

**Asabistaje.** Ad 26 da 29.IX siol. u Vilni byŭ bieł. paet Michaś Mašara haściŭ jon miž inšym i ŭ našaj redakcyi. — 29 h. m-ca adviedaŭ našuju redakcyju supracoŭnik ukrainskaha časapisu moładzi „Українське Юнацтво" red. B. Hančariuk.

**Z BSRR. Śviatkavańnie jubileju J. Kołasa.** 11.X sioleta ŭ Miensku adbyłosia ŭračystaje śviatkavańnie 30-ci-hodździa litaraturnaje tvorčaści biełaruskaha narodnaha paeta J. Kołasa. Z pryčyny hetaha jubileju Jakub Kołas atrymaŭ ad saviećkaje ŭłady ŭ padarku dom i samachod z kazionnym šofaram.

**Novaja pjesa J. Kołasa.** J. Kołas niadaŭna napisaŭ novuju biełaruskuju pjesu p. n. „Vajna vajnie".

**Trockisty—sabatažniki.** Savieckija hazety pierapoŭnieny łajankami i danosami na trockistych, jakija źjaŭlajucca piera-

---

*Рэдагуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

važna žydami. Cikava, što bэdaj kožnuju niaŭdaču navat u haspadarčym žyćci zvalvajuć na trockistych, jak raniej hetaje samaje rabili na nacdemaŭ. Niaŭdačaŭ-ža henych davoli mnoha. Voś u Mahilovie robiać drennyja mebli, u Viciebsku drennuju cehłu i h. d. Nam zdajecca, što pryčynaŭ niaŭdačaŭ treba šukać nia tolki ŭ nacdemaŭ i trockistych, ale i ŭ samoj kamunistyčnaj systemie.

**Biełarusy nia jduć u kamunistyčnuju partyju.** Za mienskaj „Звяздой" „Bieł. Krynica", a paśla i polskaje „Słowo" niadaŭna padali, što ŭ Kamunistyčnaj Partyi Biełarusi jość tolki kala 25 pracentaŭ biełarusaŭ, a rešta ŭsio čužyncy (pieravažna žydy); a na kiraŭničych i adkaznych stanoviščach biełarusaŭ jość u BSRR nia bolš 12—15 pracentaŭ.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*Ад. Станкевіч* — **З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка.** Выд „Калосься". Вільня 1936 г. Бач. 32 з ілюстрацыямі. Фармат 8°. Цана 50 гр.

Ёсьць гэта 10 (юбілейная) папарадку лічачы, праца ведамага беларускага дзеяча Кс. Ад. Станкевіча, выданая асобнай кніжкай. Зьмешчаны ў ёй новыя матар'ялы аб бел. паэце К. Сваяку, якія ня трапілі да кніжкі таго-ж Кс. Ад. Станкевіча п. н. „K. Swajak, jaho žyćcio i praca". Кніжка бязумоўна вартасная і цікавая; выданая старанна з прычыны 10-х угодкаў сьмерці К. Сваяка, каторыя бел. грамадзянства сьвяткавала сёлета вясной.

*Ks. dr. praf. J. Tarasewič*—**Na Baćkaŭščynu.** Wyd. „Chryśc. Dumki". Vilnia 1936 h. Bač. 120. Farmat 8°. Cana 1 zł.

U knižcy hetaj Ks. dr. praf. J. Tarasevič apisaŭ svaje ŭražańni z padarožy ŭ 1935 h. z Ameryki, dzie ciapier žyvie, na Baćkaŭščynu ŭ Klešniaki, Ščučynskaha pav. Apisany ŭ joj takža spatkańni z bieł. dziejačami ŭ Vilni i ŭsie kłopaty, jakija aŭtor mieŭ z polskimi ŭładami, katoryja nie dazvolili jamu ŭ svajej Baćkaŭščynie navat adpačyć. Knižka napisana žyva i šmat u joj jość cikavaha matarjału.

**„Беларускі Адрыўны Календар на 1937 г.". (Гражданкай).**

**„Biełaruski Adryŭny Kalendar na 1937 hod". (Łacinkaj).** Abodva hetyja kalendary vydali biełaruskija kniharni ŭ Vilni. Kalendary majuć dva styli: novy i stary, uschod i zachad sonca, źmieny pahody; šmat roznych cennych radaŭ, pryhožych vieršaŭ, śmiešnych žartaŭ i mnoha roznych cikavaściaŭ. Kalendary hetyja vydanyja pryhoža i apracavany dobra, i biazumoŭna *nie pavinna być nivodnaj bieł. chaty, u jakoj nia było-b biełaruskaha kalendara! Dyk usie kuplajcie biełaruskija kalendary!*..

Нядаўна ў Вільні выйшлі з друку: чарговая 4(8) кніжка літар.-навуковага бел. час. **Калосьсе**, № 4-8 **„Летапісу ТБШ"** і № 8 час. для бел. дзетак **„Пралескі" — „Praleski".** Зьмест гэтых часапісаў, кожнага ў сваей галіне, цікавы і цэнны і хто гэтых часапісаў ня мае, дык радзім пастарацца купіць іх або выпісаць.

## USIAČYNA

— Niaspryjajučaja sioleta pahoda ŭ našym krai pryčyniłasia da nieŭradžaju, asabliva adčuła heta Dziśnienščyna, dzie nasielnictvu farmalna hrazić hoład. Patrebnaja pomač. Treba ab hetym dumać i bieł. arhanizacyjam.

— Hazety pišuć, što byccam 11.XI.1936, u Polščy adbuducca važnyja palityčnyja zdareńni, jakija viažucca z arhanizavańniem novaha palityčnaha abozu, katory budzie padtrymlivać urad.

— Usie badaj dziaržavy kładuć ciapier nacisk na zbrajeńnie, chočučy adna druhuju vypieradzić. Pieršaje miesca ŭ hetym naležycca, zdajecca, Niamieččynie, dzie niadaŭna navat u siarednich školach zaviali h. zv. vajskovuju hadzinu, u časie jakoje buduć vučyć moładź vajskovaje hieohrafii, łatunskaje matematyki, terenaznaŭstva i h. d.

— Italijancy pačali novaje zmahańnie z abisyncami i padboj niezaniatych imi dahetul abisynskich ziemlaŭ. Japoncy jznoŭ dalej lezuć u Kitaj, chočučy padparadkavać henu vialikuju krainu svaim upłyvam.

— U Švecyi i Danii sioleta ŭ vybarach u parlamant pieramahli sacyjalisty.

— Anhlijskija, švedzkija i belhijskija sacyjalisty vykazalisia prociŭ supracoŭnictva z kamunistami ŭ h. zv. „narodnym froncie".

— U Francyi padyjmajuć hałavu fašysty i psujucca adnosiny miž kamunistami i ŭradam, jaki składajecca z sacyjalistaŭ i radykałaŭ.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

I. Iskry: Vieršy atrymali. Adzin, lepšy z ich, papraviŭšy drukujem. Bolš čytajcie, pracujaie nad saboj i piara nia kidajcie.

J. Huk—viču, J. Kaval—ku i Dubku: Vieršy słabyja i da druku nie padchodziać. Probujcie pisać prozaj i starajciesia šmat čytać biełaruskich knižak.

N. Kisiel—cy: Karespandencyi nia možam nadrukavać, bo jaje skanfiskujuć.

Я. Калінe і Чаромхіну: Пісаць прозай можаце, але больш працуйце над сабой, чытаючы магчыма найбольш бел. кніжак. Як месца пазволіць, пастараемся Вашыя матар'ялы, паправіўшы хоць часткова, выкарыстаць.

М. Шл—ку: За весткі дзякуем. Кніжкі жаданае ня маем, у справе падарожжы нічога няможам парадзіць.

П. Граніту і С. Хмары: Матар'ялы атрымалі, дзякуем, у меру магчымасьці будзем карыстаць. Да гэтага нумару было ўжо запозна.

Зорцы: „Шл Мол." высылаем акуратна, вершы слабыя; рэшта — ў пісьме

Ul. Redźcy: Modny front słaby. Napišycie jaho prozaj, moža lepšvyjdzie